БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

26 лістапада 1994 г.
Субота
№ 127 (13844)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:





Малюнак А ПАПОВА.

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адзначае сваё 50-годдзе. У яго фондах і шматлікіх залах сабрана больш як 120 тысяч экспанатаў. Па колькасці і разнастайнасці рэліквій, якія ёсць тут, гэта буйнейшае сховішча дакументаў і матэрыялаў з гісторыі партызанскага руху і баявых дзеянняў Савецкай Арміі на тэрыторыі Беларусі.

Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### На самміт у Будапешт

*Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка мае намер прыняць удзел у сустрэчы на вышэйшым узроўні кіраўнікоў краін —удзельніц нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Яна адбудзецца ў Будапешце ў першай дэкадзе снежня.*

Плануецца, што дыскусія ў венгерскай сталіцы разгорнецца па двух напрамках: па-першае, трэба будзе падвесці вынікі пройдзенага шляху, даць ацэнку цяперашняй сітуацыі на кантыненце; па-другое, сумесна пачаць фарміраванне мадэлі адзінай Еўропы на рубяжы 2000 года.

### Паведамленне Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу

*Аб сярэднемесячнай заработнай плаце рабочых і служачых*

Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у кастрычніку 1994 года склала 139355 рублёў (у верасні была 112166 рублёў). У студзені-кастрычніку яна склала 64633 рублі і ўзрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 14,8 раза.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

### КДБ злавіў шпіёна

*Як паведаміў начальнік прэс–службы КДБ Рэспублікі Беларусь падпалкоўнік Уладзімір Кужанаў, 24 лістапада 1994 года ў Мінску пры спробе перадачы разведвальнага матэрыялу супрацоўнікам спецслужбаў Турцыі, што дзейнічаюць пад прыкрыццем пасольства ў Беларусі, затрыманы, як устаноўлена, завербаваны імі грамадзянін Рэспублікі Беларусь, жыхар г.Гродна.*

Па гэтаму факту вядзецца расследаванне.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Пасябравалі Маладзечна і Обер

*Кола замежных сяброў у жыхароў Маладзечна з кожным годам пашыраецца.*

Нядаўна іх наведала дэлегацыя з горада Обера, што знаходзіцца ў Аргенціне, якая падпісала з мясцовым кіраўніцтвам Дагавор аб дружбе, супрацоўніцтве і культурных сувязях паміж двума гарадамі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### Прагама Сораса для садкоў

*Дзіцячы садок № 11 г.Гродна абраны фондам "Сорас–Беларусь" месцам правядзення эксперыменту па праграме "Першы крок".*

З 16 памяшканняў для дзяцей два ўжо абсталяваны амерыканскім бокам. На выхаванцаў гэтых груп будзе выдаткоўвацца па 25 цэнтаў на дзень на харчаванне (у пачатку лістапада — 1700 рублёў). У штат супрацоўнікаў садка ўведзены 5 новых пасад — сацыяльнага педагога, 2 выхавальнікаў і 2 асістэнты. Прагама "Першы крок" разлічана на 2 гады, а ўсяго на Беларусі фондам будзе ахоплена 9 дзіцячых садкоў.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

### Уладкоўваецца мытня

*Аб тым, што Віцебская мытня надоўга размяшчаецца на прыгранiччы з Расіяй, сведчыць тое, што яна пачала будаўніцтва пагранічнага пункта Езярышча ў Гарадоцкім раёне.*

Абсталёўваецца таксама пагранічны пост мытнага афармлення Калышкі, які размясціўся на дарозе з Лёзна ў гэты населены пункт непадалёку ад Расіі.

### Чаму не вучаць у школе

*У сталіцы завёўся тэлефонны шантажыст. За два дні дзяжурная міліцэйская служба прыняла тры перасцерагальныя сігналы аб мініраванні сярэдніх школ. Эвакуацыя, нервы, пот на тварах сапёраў... і, на шчасце, ніякіх выбуховых устройстваў.*

Адпаведныя службы заняліся "вылічэннем" тэлефоннага тэрарыста. Пажадаем ім поспеху. Тым больш, што вопыт ёсць — у папярэднія гады было "модна" мініраваць самалёты да таго часу, пакуль не злавілі і не пакаралі "мінёра".

### Чарга ў... бальніцу для псіхічнахворых

*Аказваецца, калі "дах паехаў", то "падрамантаваць" яго можна толькі праз тры месяцы.*

Стварылася чарга на правядзенне экспертнапсіхалагічнай экспертызы ў славутых Навінках. Пакутуе ад яе і правасуддзе, бо адтэрміноўваюцца разгляды крымінальных спраў. Пракурораў лаюць, а злачынцы радуюцца — ім спяшацца няма куды.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Выстава... пустых сцен

*Вялікім поспехам карыстаецца выстава беларускага мастака У.Шапялевіча, якая адкрылася ў мастацкім цэнтры "Жыльбел". Але пасля першага тыдня работы яе давялося закрыць з–за ...пустых сцен. Толькі на вернісажы было куплена шэсць карцін , і гэта нягледзячы на высокія цэны. Таленавітаму беларускаму мастаку ўласцівая асаблівая вастрыня і звонкасць жывапісу, глыбіня і шчырасць у праяўленні пачуццяў, яркая індывідуальнасць. Відаць, менавіта гэтыя якасці мастака адзначылі спецыялісты з Ніжневартаўска. У далёкую Сібір паедуць адразу дзевяць палотнаў беларускага мастака. Выстава сабрала вялікую колькасць гасцей, сярод якіх былі і міністр замежных спраў Беларусі У.Санько, прадстаўнікі шэрагу пасольстваў, банкаў, дзеячы мастацтваў, бізнесмены.*

У калектыва мастацкага цэнтра "Жыльбел" вялікія творчыя планы, выставы беларускага мастацтва за мяжой, пошук маладых талентаў, тых, хто будзе вызначаць заўтра твар нашага мастацтва.

**Алесь ТАРАНОВІЧ.**

### Курсы валют на 25 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7920 | 8200 | 5068 | 5280 |
| "Алімп" | 7950 | 8700 | 5000 | 5500 |

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Акустычная вось

□ Якаў Ясэпкін, "ЧЗ"

***Мінае яшчэ адзін тыдзень — апошні ў лістападзе. Восеньская інфармацыйная ніша запаўняецца свежымі блокамі навін, далей — зіма, снежаньскі чорны мармур. Між тым, стромкасць тыднёвага хронасу, у першую чаргу, была абумоўлена своеасаблівай акустычнай воссю, якая працягнулася праз часовую прастору.***

Рэфарматарскі "крыжовы паход" супраць крызіснага абвалу нацыянальнай эканомікі пакуль па-ранейшаму знаходзіцца ў першапачатковай стадыі, можна сказаць, у сферы высокай рыторыкі. Таму невыпадкова, што "акустычная мадэль" прэваліруе над канкрэтыкай абвешчаных рэформ, вызначае дынаміку сітуацыі. Наверсе ўладнай піраміды адбываюцца даволі драматычныя калізіі, звязаныя з пераразмеркаваннем функцый выканаўчай і заканадаўчай структур. Рычагі кіравання дзяржаўнай машынай не знаходзяцца ў форме адрэгуляванай канструкцыі, магчымы розныя канфігурацыі. Так, у цэнтры ўвагі пасяджэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета 23 лістапада былі пытанні XVI сесіі парламента, якая адновіць сваю работу ў аўторак на будучым тыдні. Сярод законапраектаў, мабыць, паявяцца і такія важныя: "Аб прэзідэнце Рэспублікі Беларусь", "Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь" і "Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь". Характэрнай уяўляецца пазіцыя Мечаслава Грыба, які лічыць, напрыклад, што законапраект аб Кабінеце Міністраў, адобраны ў першым чытанні, разглядаць яшчэ рана, дакумент знаходзіцца ва ўрадзе і ў прэзідэнта. Не менш небясспрэчным падаецца і праходжанне двух іншых вышэйпамянёных актаў. Афіцыйная рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі на іх разгляд і магчымае прыняцце невядомая (тут ёсць сэнс згадаць пра адмоўнае стаўленне Аляксандра Рыгоравіча да ўнясення ў парадак работы сесіі разгляду закона аб прэзідэнце). Прававы калідор, па якім, мяркуецца, змогуць у поўнай згодзе перамяшчацца прадстаўнікі ўладнай трыяды, сёння існуе ў плоскасці пажаданай рэальнасці і прыбраць вакол яго будаўнічыя рыштаванні — нялёгкая задача.

Акустычная прастора на тыдні павялічылася да рэспубліканскіх памераў. Прэс-цэнтры і канферэнц-залы сталі "гарачымі кропкамі" і прыцягнулі ўвагу не вузкіх аўдыторый непасрэдных удзельнікаў публічных мерапрыемстваў, стаўшых відавочнікамі выступленняў першых асоб дзяржавы, а ўсіх тых, хто не страціў цікавасці да падзей, дэкаратыўных перамен на палітычнай авансцэне. Акустычная вось прайшла праз тыднёвы тыгель спачатку як рэха. У пятніцу Канстытуцыйны суд сказаў "а". Чаканне вердыкту суддзяў доўжылася два дні: у панядзелак В.Ціхіня аб'явіў заключэнне аб адноснай адпаведнасці Канстытуцыі парламенцкага Закона ад 6 кастрычніка, у сярэдзіне тыдня заключэнне не апублікавалі СМІ. Неабходнасць трансфармацыі прэзідэнцкай вертыкалі стала фактам. І Аляксандр Лукашэнка сказаў пра гэта ў сераду, пра што крыху ніжэй. Бо трэба адзначыць яшчэ адзін неардынарны факт: напрыканцы мінулага тыдня і ў пачатку гэтага газеты змясцілі публікацыі з сенсацыйным налётам. Размова аб здзелцы паміж беларускім і амерыкана-канадскім бакамі, продажы рэспублікай ракетнага комплексу С-300 ПМУ, які не мае аналагаў у свеце, амерыкана-канадскай фірме "А.Т.О.С.". З дакладных крыніц стала вядома, што кантракт існуе, але па яго ўмовах заакіянскай фірме прадаюць не комплекс, а элементы: радыёлакатар падсвечвання і навядзення, радыёлакатар знаходжання цэлі на малых вышынях і сістэму аўтаномнага электранасычэння. Ваенныя сакрэты па вытворчасці унікальнага ЗРК належаць Расіі, таму і рэзананс атрымаўся гучны.

Апроч страсцей у Канстытуцыйным судзе ўвагу грамадскасці прыцягнуў шэраг падзей не такіх унушальных па параметрах рэальнага і верагоднага ўздзеяння на аглядную будучыню, аднак дастаткова значных. Стала вядома: 30 мільёнаў даляраў для прыватнага прадпрымальніцтва — такую крэдытную лінію (спецыяльна для развіцця малых і сярэдніх прадпрыемстваў у Беларусі) адкрыў Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Навіна з таго ж "куфра": кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Л.Сініцын абмеркаваў з прадстаўніком Міжнароднага валютнага фонду У.Мідлкоапам пытанні фінансавага супрацоўніцтва рэспублікі з міжнароднымі валютнымі арганізацыямі. Увогуле эканамічная тэма, калі не дамінавала па прычыне палітычнага свячэння часу (умоўная свечка, запаленая ў зале КС, утварыла яго адметнае адценне), дык і не была ў цяні. На прэс-канферэнцыі віцэ-прэм'ер В.Кокараў паведаміў, што агульная запазычанасць Беларусі расійскаму боку складае 460 мільёнаў даляраў, з іх 420 мільёнаў — за газ, 40 — за нафту. Наша рэспубліка раней прапаноўвала Расіі спіс прадпрыемстваў, на базе якіх могуць быць арганізаваны сумесныя акцыянерныя таварыствы. Аднак такія прапановы не задаволілі сыравінных магнатаў, Беларусі (паводле Кокарава) дадзена 12 дзён на падрыхтоўку новых прапаноў. Гарантыя стабільных паставак газу цяпер залежыць ад дзвюх умоў: поўнай аплаты бягучага спажывання і складання графіка пагашэння запазычанасці. Здаецца, не адна ўмоўная свечка палітычнага напалу будзе асвятляць-цяпліць беларускі ландшафт з усёй інфраструктурай. Пры выкананні абавязацельстваў і джэнтльменскага пагаднення.

Той, хто ведае, — маўчыць. Кітайскую мудрасць абвяргалі на тыдні многія палітыкі. Слоўнае "золата", па прыкметах, усё менеі цэніцца ў незалежнай рэспубліцы. Восеньскае адляцела. "Золата" цёплых адносін (дарэчы, былая адмета савецкай фантастычнай явы) таксама становіцца рарытэтам. Другое ці трэцяе выданне атрымлівае крытычны электронна-папяровы накат на прэзідэнта, аб чым ён гаварыў, вярнуўшыся з Сочы. Хаця... не справа палітыкаў — маўчаць. Так залаты сплаў і разбаўляецца. Фальклорам тыдня можна лічыць завочны абмен прыязнасцю вядомых дзеячаў "з нагоды". С.Гайдукевіч узначаліў (?) БНС "Ачышчэнне". "Народная газета" апублікавала артыкул-рэакцыю, публікацыю заўважыў прэзідэнт і ўпаўнаважыў ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі распаўсюдзіць тэкст заявы.

Бадай, сярод "акустычных эфектаў" трэба ўсё ж вызначыць два. Першы. Як вядома, Мечаслаў Грыб пакінуў сваю "візітку" ў Новым Свеце. Яшчэ перад афіцыйным візітам у Польшчу (з 23 па 25 лістапада — па запрашэнню маршала сейма Юзафа Алексы) спікер парламента правёў прэс-канферэнцыю. Беларуская дэлегацыя прымала ўдзел у рабоце 40-й сесіі Паўночнаатлантычнай асамблеі. Аб выніках знаходжання ў ЗША і расказаў Старшыня Вярхоўнага Савета. Асноўная мэта візіту — выступленне кіраўніка беларускай дэлегацыі на пленарным пасяджэнні асамблеі, прысвечанае натаўскай праграме "Партнёрства дзеля міру", а таксама магчымасці пашырэння НАТО за кошт прыняцця ў яго Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі. Тут цэлы блок пытанняў, М.Грыб з дастатковай шчырасцю выказаў свой погляд на іх. Наша дэлегацыя не толькі ўдзельнічала ў пленарным пасяджэнні, але і прысутнічала на пасяджэннях пяці камітэтаў форуму. Цікавы факт: на камітэце асамблеі па грамадскіх правах прынята рэзалюцыя ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі, Малдове, Расіі і на Украіне. Эфект другі. Прэзідэнт сустрэўся з прафсаюзным актывам рэспублікі. Лейтматыў сустрэчы: "шокавых мер насельніцтва ўжо не вытрымае, запасы цярпення вычарпаны" (з уступнага слова старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У.Ганчарыка). Даклад Аляксандра Лукашэнкі змяшчаў аналіз не толькі сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, былі закрануты палітычныя і знешнеэканамічныя праблемы. У друку падрабязна асвятляўся ход сустрэчы, таму не станем пералічваць па пунктах усё, аб чым вялася размова. Варта адзначыць добрую падрыхтоўку даклада, прамоўніцкае майстэрства Аляксандра Рыгоравіча. Як і дэманстрацыю ўпэўненасці ў сваіх сілах ("ніхто не мае права аддаваць загады прэзідэнту суверэннай дзяржавы..." — пра незадавальненне МВФ і Сусветнага Банка ўказам аб зніжэнні цэн). Успомнім і "вертыкальныя" страсці. Вертыкаль выканаўчай улады будзе створана праз два тыдні і дасць магчымасць пакласці канец самавольству мясцовага чыноўніцтва. Такое сцвярджэнне прагучала з прэзідэнцкіх вуснаў. І тут цяжка гаварыць проста пра акустычны эфект.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## "Уорлднэт"

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### ПРАГРАМА ГЕЛЬМУТА КОЛЯ

*Федэральны канцлер Германіі Гельмут Коль прадставіў нямецкаму парламенту ўрадавую праграму на наступныя 4 гады.*

Яна прадугледжвае, у прыватнасці, барацьбу з бюракратыяй у дзяржаве, а таксама павышэнне выплаты для сем'яў з дзецьмі і працаўладкаванне беспрацоўных. Асноўныя напрамкі знешнепалітычнай дзейнасці — далейшае супрацоўніцтва з дзяржавамі Еўрапейскай Супольнасці і дапамога былым сацыялістычным дзяржавам Усходняй Еўропы.

### ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ПАРЫЖЫ

*У Парыжы каля 8 тысяч служачых горада выйшлі на вуліцы з патрабаваннем паляпшэння ўмоў жыцця і, у прыватнасці, павышэння заработнай платы.*

У гэтым годзе ў Францыі каля 7 тысяч чалавек страцілі рабочыя месцы.

### СМЕРЦЬ ДЛЯ ТЭРАРЫСТА

*Ізраільскі суд прыгаварыў да смяротнага пакарання аднаго з членаў палесцінскай арганізацыі "Хамас".*

У выніку выбуху бомбы, якую тэрарыст падклаў у аўтобус у Тэль-Авіве, загінула 5 чалавек.

## "Супер чэннэл"

### СУВЯЗІСТАЎ АБВІНАВАЦІЛІ Ў ШПІЯНАЖЫ

*Упраўленне тэлефоннай сувязі Вялікабрытаніі адхіліла абвінавачванне сакрэтных службаў у тым, што адзін з яго служачых праслухваў размовы тайных службаў, а таксама некаторых асоб вышэйшага свету, у прыватнасці, прэм'ер-міністра Джона Мейджара і каралеўскай сям'і.*

Абвінавачванне было прад'яўлена пасля таго, як у цэнтральным друку Брытаніі з'явілася сакрэтная інфармацыя.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

